ля якога недалёка буяў і вінаграднік. Сабранымі пладамі цыстэрцыянцы не толькі харчаваліся, але і выраблялі з іх цудоўнае віно.

Разжыўшыся, гэтыя манахі пабудавалі ў Вістычах ужо новы касцёл у стыле італьянскага барока і асвяцілі яго ў гонар святой Сафіі.

Прайшло мноства гадоў. Змяніліся свет і прырода. За гэты час абмялела вірлівая рачулка Лясная. Па нашай зямлі прайшло шмат войнаў, паўстанняў і рэвалюцый. Адна за другой змяняліся ўлады, сцягі і гербы. Даўным даўно няма сведкаў тых крывавых падзей. Згарэлі на вогнішчах усе дакументы, якія маглі бы сведчыць аб багатай гісторыі нашага краю.

Толькі адзін Вістыцкі касцёл стаіць помнікам той даўнізны. Каб ён мог гаварыць, то красамоўна апавядаў бы пра жыццё ліцвінаў, пра Касцюшкіна паўстанне, у час якога манахі-цыстэрцыянцы актыўна падтрымлівалі паўстанцаў. Касцёл змог бы гадзінамі расказваць пра Вялікае Княства Літоўскае, якое ўваходзіла тады ў склад «Жэчы Паспалітай», пра тое, як яго народ змагаўся за сваю волю. На тэрыторыі ўсёй «Жэчы» была разгорнута партызанская вайна. Касцюшкаўцы былі амаль ужо пераможцамі, але на іх разгром быў пасланы 11-тысячны корпус пад кіраўніцтвам Суворава. Шквалісты агонь яго артылерыі зрабіў сваю чорную справу, і паўстанне было падаўлена. За разгром усхваляваных ліцвінскіх касінераў Сувораў атрымаў ад царыцы чын фельдмаршала.

А само княства, якое да гэтага праіснавала 500 гадоў, было захоплена Расіяй і «на вякі». Так знікла з карты магутная дзяржава, вялікія князі якой — Вітаўт і Ягайла — разбілі на Грунвальдскім полі Тэўтонскі Ордэн. А яшчэ раней, на полі Сіняй вады князі Вялікага княства Літоўскага першымі разграмілі мангола-татар, паказаўшы рускай Маскве прыклад, што толькі аб'яднаўшыся можна перамагчы іга.

Пасля паражэння паўстання Касцюшкі царыца Кацярына, захапіўшы Вялікае княства Літоўскае, назвала гэты край Белай Руссю, а народ — беларусамі. З той пары ўсе каталіцкія касцёлы сталі перабудоўвацца ў праваслаўныя царквы. Так прыйшло зноўку на нашу зямлю праваслаўе.

Па гэтай прычыне ў 1832 годзе манастыр манахаў-цыстэрцыянцаў быў зачынены. На цяперашні дзень ад яго ў Вістычах застаўся толькі будынак касцёла і паўразбураныя сцены.

А з 1866 года ў былым касцёле пачала дзейнічаць праваслаўная царква, высвечаная і названая Крыжаўзвядзенскай. Яна там існуе і да нашай пары.

А сад?! Што сталася з тым садам, што пасадзілі мноства гадоў таму назад манахі Віс і Тыц?

О! Той садок разросся! Манахі навучыліся рабіць прышчэпкі яблынь і выводзіць новыя гатункі. А жыхары наваколля сталі па іх прыкладу садзіць дрэвы яблынь на сваіх сядзібах. Таму з той далёкай даўнізны ідзе пра Вістычы слава як пра сяло-сад, дзе непадалёку ад рачулкі Лясной растуць выдатныя яблыкі і жывуць шчаслівыя людзі.

Пры Польшчы сюды прыводзілі на экскурсіі вучняў з Чэрнінскай повшэхнай школы. Дзеці цэлымі класамі, начале з настаўніцамі, ішлі пехатою, каб паглядзець на прыгажосць, створаную людскімі рукамі.

Моладзь з усёй акругі збіралася на вістычскім мосце і арганізоўвала там танцы. Хлопцы на ровэрах прывозілі туды музыканта, а шчаслівыя дзяўчаты спявалі і танчылі аж да ўсходу сонца. Маладыя хлопцы тут знаёміліся з

прыгажунямі, а потым запрашалі іх на шпацыр пад старавечныя вістычскія ліпы.

О! Колькі закаханых помняць гэтыя дрэвы! Колькі яны чулі прызнанняў у любві! Вістычы былі ў той далёкі ўжо ад нас час не толькі сялом прыгажосці, але і культурным цэнтрам, месцам спатканняў.

Ужо пры савецкай уладзе на вістычскай зямлі памерам у 100 гектараў, сумесна з польскімі сябрамі ў 1977 годзе быў закладзены сад «Дружба». Гэтая падзея была прыстасавана да святкавання 60-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Хочацца дабавіць да таго, што вёска Скорбічы, якая знаходзіцца побач з Вістычамі, была перайменавана тады ў Дружбу.

Саду ж «Дружба» далі іменна такую назву таму, што ён павінен быў сімвалізаваць моц і непарушнасць савецка-польскага сяброўства. Адначасова такія ж сады былі закладзены ў Польшчы (Люблінскае ваяводства) і пад Луцкам на Украіне. Зараз




тэрыторыя Вістычскага сада састаўляе 300 гектараў. Ён расце і працвітае на радасць усяму краю. Слава аб ім разносіцца па ўсёй нашай Беларусі і за яе межамі. Спецыялісты-садаводы ў канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя атрымалі медаль на ВДНГ у Маскве. А яблыкі з сада пастаўляліся у Зорны гарадок для касманаўтаў, дзе жыў і працаваў наш праслаўлены касманаўт Пятро Клімук. Зямляк, бываючы ў сябе на радзіме, заўжды заязджаў пагасцяваць і ў сад «Дружба».

Вось такая Вістычская гісторыя. Спадабалася? Тады дзякуй за ўвагу.



## У нас в гостях литературный кружок

# «В десяточку»

Два года назад на базе СШ № 10 г. Бреста открылся литературный кружок «В десяточку», в котором занимаются 16 учащихся от 5 до 10 класса. Одни из них уже неплохо владеют техникой стихосложения и несомненно имеют творческие способности. Это Юля Киприянова, Вика Синкевич, Даша Нещадим. Интересный творческий почерк у Шиловой Виктории, которая пришла в кружок в прошлом году. Подает хорошие надежды Гумен Валерия, которая занимается в кружке регулярно со дня его основания. Радуют своими успехами и совсем юные члены кружка Полина Орлова, Лия Гуржий, Дима Иванюк. Есть девочка, которая пока мало, но охотно посещает кружок и очень прилежно работает на занятиях — это учащаяся 6 «Б» класса Валерия Маташук.

Курирует работу кружка завуч Ирина Алексеевна Нестерук, филолог по образованию, она сама пишет неплохие стихи. Директор школы Елена Николаевна Старик.

# «Арзамас-2»

Кружок был открыт на базе лицея № 1 им. А.С. Пушкина в прошлом году. Курирует работу кружка завуч Илья Михайлович Пархутич, кстати, тоже филолог. Директор лицея Светлана Николаевна Семенова. В кружке занимаются десятиклассники, учащиеся класса русской словесности. Наиболее способные, я бы даже сказал талантливые члены кружка — это Валида Асадова, Яна Босак, Алина Троцюк. Дети участвуют в творческих конкурсах разных уровней, занимают призовые места, печатаются в городских, областных и республиканских газетах и журналах. Руководит кружками М.И. Кулеш.



*Михаил КУЛЕШ,*
*член Союза писателей Беларуси*

# «Мара твая сярод зорак сваю адшукала»



***Виктория Синкевич** родилась 29 ноября 2002 года в г. Пинске.*

*В 2008 году вместе с родителями переехала жить в г. Брест.*

*Учится в 8 «А» классе СШ № 10 г. Бреста. Класс с художественным уклоном. Здесь девочка занимается рисунком, живописью, изобразительным искусством. Очень любит рисовать с натуры. Ребенок всесторонне развитый: участвует в работе школьного драмкружка под руководством учителя русского языка и литературы Лилии Афанасьевны. Занималась танцами, конным спортом.*

*Но самая большая любовь Виктории — это поэзия. Вот уже два года она прилежно занимается в школьном литературном кружке «В десяточку», печатается в школьной настенной газете, приняла участие в областном литературном конкурсе для детей и юношества «Мара твая сярод зорак сваю адшукала», где была отмечена специальной грамотой жюри. Ее стихи вошли в коллективный сборник «Адкрыццё 2015». Мама Вики, Синкевич Елена Михайловна, — индивидуальный предприниматель. Она считает, что дочь — необычный ребенок, обладает богатым воображением и творческим взглядом на все.*

*Мы предлагаем вашему вниманию стихотворение и басню Вики Синкевич, которые подтверждают, что перед нами действительно одаренный ребенок. И будем ждать новых встреч на страницах газет и журналов.*

## Лето

Солнышко ласково светит:
Эй, выходи, отдохни!..
Взрослые любят и дети
Теплые летние дни.
Сколько свободы и света!
Год отучились не зря.
Здравствуй, желанное лето!
Мы тебя ждем с сентября.

*Виктория СИНКЕВИЧ*

# Глупый зайчонок

*( Басня )*

Зайчишку звали Прыг да Скок,
Он в кои веки выучил урок.
Хотел по парте удивить соседку
И получить хорошую отметку.
Вот прозвенел звонок и начался урок —
И руку тянет отвечать Прыг-Скок.
Но в этот раз к доске не вызвали зайчонка,
А вызвали сову, лису и медвежонка.

Прыг-Скок на переменке возмущался:
— Не вызвали, а я ведь так старался,
Весь вечер над уроками потел,
Уж лучше бы я мультики смотрел.

***

Никак не мог он, глупый, догадаться,
Что знанья эти в жизни пригодятся.



# «Голос детства»



***Янина Босак** родилась 30 сентября 2000 года в Бресте. Учится в лицее № 1 им. А.С. Пушкина. Стихи пишет с семи лет. Занимается музыкой, рукоделием. Участвовала в конкурсе «Голос детства», конкурсе сочинений, посвященных 1150-летию г. Полоцка, 11-й Международной неделе птиц, в конкурсе «Стихотворение о птице года» и др. Является дипломантом 3-й степени республиканской олимпиады по обществоведению 2016 года, а также имеет дипломы 1-й и 4-й степеней за победу в городском литературном конкурсе «Голос 2013». Печаталась в газете «Брестский вестник». Является членом литературного кружка «Арзамас-2» при лицее № 1 им. А.С. Пушкина г. Бреста.*

*******

Люблю красивых нот звучанье,
И ноту «ЛЯ», и ноту «МИ».
Они заменят мне молчанье,
Заменят разговор с людьми.
Не надо лишних слов мне больше:
Я с музыкой наедине,
И только б с ней побыть подольше,
И большего не нужно мне.
Жить музыкой хочу я вечно
И ею видеть и дышать,
С ней мчится время быстротечно,
Хочу как Моцарт я играть.
Чтоб вникнуть в смысл красивых звуков
И до людей их доносить,
Чтобы понять в момент разлуки,
Что можно музыкой любить.

*Янина* **БОСАК**

*******

Счастливый не тот, кто счастливым родился,
А тот, кто от жизни чего-то добился.
Кто мучился, делал, с трудом добивался,
Кто всю свою жизнь для чего-то старался.
Усилия, труд помогают нам в деле —
От этого дух появляется в теле.
И сила направлена правильно, точно
И радость в душе закрепляется прочно.
От первых успехов мы счастливы, верно?
И радость победы нас греет безмерно.
Но если пока что не все получилось —
Мы сделаем все, чтобы это случилось!
Не только победы нам дух прибавляют —
Вперед нас идти неудачи толкают.
Становится дух наш сильнее и крепче —
Идти нам к победе становится легче.
И только добившись желанного чуда,
Поймешь, появляется счастье откуда.
Пробившись сквозь стену печали, ненастья,
Почувствуешь радость желанного счастья.

*******

Когда начнешь ценить ты, что имеешь,
Ты в этой жизни многое сумеешь.
И мир покажется тебе в сто раз добрее,
Но мы не ценим часто, что имеем.
Нас тянет ввысь, чего-то ждем годами,
И сила духа управляет нами.
Мы не желаем по-другому жить,
Но так хотим мы этот мир любить.
Сказать хотим проснувшись: «Все прекрасно!»
И не губить счастливых дней напрасно.

## Александр ВОЛКОВИЧ

# Лебединым перышком из прошлого

*Главы неоконченной повести об Элизе Ожешко*
*Продолжение. Начало в № 2 (14) 2016 г.*

## Домашний театр

— Избавь меня, Делия, от бабского рукоделия! — острил пан Петр Ожешко, большой любитель изящной словесности, поклонник Пушкина, Мицкевича и Баратынского.

Возлюбленная римского поэта Тибула по имени Делия, загадочный образ которой вдохновил многих стихотворцев, будоражила романтическую панскую натуру, и даже подвигла на создание домашнего театра, выдержавшего одну-единственную постановку. Событие взбудоражило всю деревню, не говоря уже об обитателях панской усадьбы, не избалованных яркими праздниками или другими какими-нибудь серьезными происшествиями. Молва о театре разнеслась далеко по округе, хотя, впрочем, все закончилось на удивление быстро и неудачно. Зато подготовка, репетиции, переодевания и собственно лицедейство — незнакомая и страсть какая интересная забава, вовлекшая в свою орбиту массу неискушенных людей, — действовали завораживающе. Слух обо всем этом бежал далеко впереди самой лошади — постановки.

И вот зрелищное действо после продолжительных репетиций, проводившихся якобы втайне от непосвященных и посторонних, состоялось...

Пятиактовая пьеска, и особенно игра и сценические костюмы панской дворни, набранной в труппу, вызвали снисходительные улыбки приглашенных знатоков — брата Флориана с женой Агнешкой и закадычного дружка Яна Жука с его любвеобильной Стефанией, специально приехавших на премьеру из имения в Попинах.

Доморощенные лицедеи, разыгравшие в большом зале маентка пасторальный сюжет, сбивались с текста, чересчур громко произносили заученные слова, переходя на крик, отчаянно гримасничали и кривлялись.

Главная героиня пьесы пастушка Делия — ее исполняла горничная Зося — предстала на премьере, облачившись в платье синего бархата, сверх которого напялила нарядный крестьянский фартушок. Уж очень пронафталиненное, вышедшее из моды платье, позаимствованное из гардероба старой пани, давно умершей, — с заметными потертостями подмышками, посеченное молью — горничной приглянулось. Платье висело на щупленькой девушке балахоном. Наряд окончательно портил белый фартушок с ярко-красными маками и ядовито-зеленым барвинком, вышитыми гладью и двойным крестиком. Фартушок смотрелся на синем бархате крикливо и аляповато. Никакие увещевания главного режиссера о несоответствии костюма и драматургического образа не заставили Зоську

сменить реквизит. Без бархатного платья и свадебного фартушка из своего приданого она наотрез отказывалась выходить на сцену. И с готовностью облачалась на каждую репетицию.

Пьеса, по мнению главного режиссера, то есть самого хозяина, с треском провалилась, зато вызвала неуправляемый энтузиазм самодеятельных артистов и бурные аплодисменты зрителей из приглашенной публики и прислуги, азартно комментировавших сценическое действо. Зрители шумно приветствовали или порицали «положительных» и «отрицательных» героев, как будто бы все происходившее на сцене — осязаемо и реально. А когда герой-любовник, он же соблазнитель юной пастушки Делии, коварный злодей — панский кучер — пытался вырвать у непорочной героини запретный поцелуй, публика, подбадривая девушку, дружно орала: «Зоська! Жардзінай яго! Па чэсалам!»

Зоська выходила кланяться бесновавшейся публике раз пять, а то и больше, пока занавес не задернули, в спешке его оборвав...

Театральная вольница тотчас же сказалась на умонастроениях челяди и пожаром перекинулась в деревню. Переодевания, копирование господ, разыгрывание скабрезных сценок из жизни высшего общества стало дурной модой, охватившей местную молодежь.

Войдя в образ, горничная Зося впоследствии пренебрегала черновой работой по дому, а кучер Василь, вдохновившись сценической ролью соблазнителя, портил дворовых девок направо и налево. И не прекращал это легкомысленное занятие до тех пор, пока пан не пригрозил женить его на рябой кухарке Верке, отличавшейся небывалой полнотой.

Дух Мельпомены внес разлад и шатания в размеренный быт дворянской усадьбы.

Режиссер вынужден был наступить на горло собственной песне. Театр был объявлен закрытым.

В шляхетской среде пан Ожешко считался либералом и вольнодумцем, что выражалось в курении кальяна, крамольном цитировании (невпопад) вышеозначенных стихотворцев и в некоторых хозяйственных нововведениях. Театральная блажь скоро у него выветрилась.

К моменту женитьбы на молодой паненке Элизе Павловской о домашнем театре в имении Ожешко уже не вспоминали.

## На заклание

...Спутана, нечесана грива старого коня, позабывшего тяжесть седла с седоком и смирившегося с отполированными оглоблями. Переплутаны стежки-дорожки, по которым катится убогая телега, спотыкаясь на древесных кореньях. Деревья, как прожитые годы, остаются позади скрипящей повозки, укоряемой неспешным ходом смирной лошади, ведающей итог пути — бойня и забвение.

Битый не битого тащит за рога на веревке, привязанной к задку телеги. Битый давно позабыл вкус горячей плети и звонкую тяжесть подков. Битый привычно отмахивается длинным хвостом от неотлучных слепней и лягается в пузо разбитым копытом в надежде припечатать кусачую зануду. Торба овса ожидает покорного на исходе рабочего дня. Шлепанье лейцы по крутому боку и окрик возницы не

убыстряют дижения. Не замедляет его и ведомая пленница — бурая коровенка преклонных годов, семенящая сзади. Ни разу по-настоящему не битая, она вся в ожидании смертельного битья, о чем, наверное, догадывается, а скорее — предчувствует.

Буренка сдуру начинает упираться четырьмя потресканными копытами: кто кого, тяни-толкай, — но через секунду противостояния, сдернутая с места, вновь мотыляется за телегой, чаще перебирает ногами, чтобы не упасть...

Тщетны усилия задержать неизбежное.

Битый даже ухом не ведет. «Не ты первая и не ты последняя: все мы там будем, чего упираться?» — осуждающе подрагивает лошадиный круп.

Каштанко сив и ленив. Он неприхотливый и хитрый, поэтому живет долго.

— Куда корову ведут? — задается вопросом молодая паненка, а спросить-то не у кого. Осевшее облачко пыли позади удалившейся телеги с рогатой наложницей на поводу, исчезнувшие за поворотом вместе с дряхлым конем и безразличным возницей в холщовом сермяке, не вносят ясности в легкое недоумение праздной девицы, облаченной в яркое городское платье.

Паненка сдержанно фыркает и оглядывается по сторонам.

А корову за какую провинность?

Паненка сдергивает с каштановой головы нарядную шляпку — и как по мановению волшебной палочки, любопытство находит удовлетворение.

— Можа пани не ве: на менсо забийон Красавку, бо юш стара, млеко не дае...

Девчонка-полешучка, невесть откуда взявшись, стоит напротив, беспечно помахивая хворостиной. Утиный выводок бесцеремонно проплывает мимо, громко выражая неудовлетворение присутствием и нарядом чужой пани, вздумавшей в одиночку отдалиться от села.

«Дзень добры, пани!», прозвучавшее чуток раньше, написано на конопатом девичьем лице: оно приветливо улыбается и простодушно разглядывает Элизу.

— Вем, кто пани естет! Жона пана Ожешко! — бодро добавляет ко всему сказанному девчонка, старательно выговаривая польские слова.

Случайные попутчицы возвращаются в Людвиново вместе. Они почти одногодки и успевают подружиться. По дороге молодая жена, она же — новая хозяйка поместья и обширных окрестных угодий, узнает для себя массу интересных вещей.

На бойню ходить незачем: там противно, страшно и воняет. Бойню специально построили за селом, на краю болота. Внутри стоит, прислоненная в угол деревянная колотушка на длинной ручке: орудие убийства. Однажды Ганка видела грозную деревяху в щелку, но предпочла дома не расказывать, а может быть, просто забыла.

Самое приятное место в Людвиново — корчма старого Мельхера: всегда в продаже сладкие петушки на палочках и разноцветные леденцы, кисленькие. Мамка ругается, если в будние дни отец туда заглядывает, и как его только лихоманка не возьмет! По праздникам куда ни шло. Зато мельхерова жена Сара-Сайроха по осени скупает оптом гусей — это значит, всех сразу, правда, берет самых жирных, и не надо возить птицу на базар в Закозель, одни убытки.

«Какая смышленая, наблюдательная девочка!» — думает Элиза, на-

правлясь по липовой аллее к панскому особняку.

«Какие красивые у молодой хозяйки туфельки: позолоченного сафьяна, с длинными узкими носами!» — размышляет Ганка, загоняя уток во двор.

«Кря-кря!» — соглашается с ней перламутровый селезень.

Людвиново погрузилось в темноту и сон, лишь солнечный шар закатился за дальний лес.

Молодой хозяйке на новом месте снятся загадочные Белянские луга и... новый, другой жених — и это нехорошая примета, потому что для замужней кобеты — греховодная. Наверное, поэтому пан Ожешко — опочивают они с юной женой в разных комнатах на разных кроватях — ворочается и кряхтит во сне.

Дольше других деревенских горит лампа в корчме Ешки Мельхера. Покуролесившие намедни мужики затоптали некрашеный пол, и жене корчмаря Саре-Сайрохе пришлось присмотреть, пока нанятая кривая Дарья не вымоет и не выскоблет половицы добела.

Во влажной тьме спят деревенские хаты вместе с уставшими за трудовой летний день полешуками.

Спят укрытые белым туманом Белянские луга, изредка семафоря всполохами далеких огней. Люди говорили, что это впотьмах злобствует Черная Багна.

Мерный стук колотушки деревенского сторожа — глухого звонаря Воротьки, вносит умиротворение в сонное дыхание людей и скотины. Охранник и сам вскоре задремлет в копне на задворках.

А покой всей округи выйдет сторожить молодой месяц, вооружившись для храбрости рогами взлетевшей в небеса несчастной Красавки. Так и будет рогатый слоняться по звездному лугу, пока деревенские петухи не начнут выкликать зарю.



# Интерактивная викторина «Беларусь военная»

В Брестской районной библиотеке прошла интерактивная викторина «Беларусь военная», посвященная Дню освобождения Брестского района от немецко-фашистских захватчиков. В период с 8 по 28 июля каждый подросток, посетивший библиотеку, проверил свои знания, письменно ответив на 23 вопроса викторины, при этом можно было воспользоваться книгами и поискать правильные ответы. На подведение итогов викторины были приглашены все участники 28 июля. На церемонии награждения заведующая отделом районной библиотеки Марина Пейко озвучила правильные ответы с использованием мультимедийной техники. Это и демонстрация слайдов и видеофильмов, прослушивание музыки, а также обзор книг, которые можно прочесть на тему войны. Ребята закрепили свои знания по истории борьбы белорусского народа за освобождение...

*Светлана* ЧУСОВЛЯНКИНА

Интерактивную викторину со школьниками проводит Марина Пейко



*Новыя кнігі*

# Ціны Хутаранкі

**Шляхі буслінага краю: вершы, балады і паэмы / Ціна Хутаранка. — Брэст: Альтэрнатыва, 2015. — 149 с.**




У зборнік «Шляхі буслінага краю» ўвайшлі балады пра гісторыю нашай шматпакутнай Радзімы. Цікава апісаны лёсы знакамітых асоб Берасцейшчыны — Казіміра Лышчынскага і Андрэя Тадэвуша-Банавертуры Касцюшкі. Выказаны погляд на філосафа, асветніка Вялікага княства Літоўскага Сымона Буднага і французскага імператара Напалеона Банапарта.

У зборніку шмат гумарыстычных твораў і вершаў пра сучаснасць.

**Несостоявшийся полет на дельтаплане: стихи разных лет / Тина Хуторянка. — Брест: Альтернатива, 2016. — 144 с.**




В сборник «Несостоявшийся полет на дельтаплане» вошли стихи Тины Хуторянки, посвященные сыну — Карпешу Михаилу, спортсмену-альпинисту, погибшему в Хибинах на Кольском полуострове под снежной лавиной 8 марта 2010 г.

Во второй и третьей части сборника помещены стихи на гражданские темы. В них поэтесса философствует о будущем и настоящем Земли, открыто выступает против войн, захлестнувших планету, много басен, в которых Хуторянка высмеивает человеческие пороки.

Книга интересна по содержанию и привлекает смелостью рассуждений.

# *Владимир ЯСКОВИЧ*



*Родился в Дрогичине в 1952 году.*

*Первые стихотворения опубликовал в школьные годы в Дрогичинской районной газете.*

*Окончил факультет журналистики Белгосуниверситета. Работал корреспондентом областной газеты «Заря». Был собственным корреспондентом по Брестской и Гродненской областям самой популярной в годы перестройки белорусской газеты «Знамя юности». Являлся редактором республиканской газеты «Европейский перекресток».*

*Автор многочисленных поэтических публикаций в газете «Брестский курьер». Выпустил две книги поэзии.*

---

**Зов / Кліч: вершы / Уладзімір Ясковіч. — Брэст: ААТ «Брэсцкая друкарня», 2013. — 112 л.**

Вершы на беларускай і рускай мовах Уладзіміра Ясковіча вядомыя чытачам са шматлікіх публікацый у абласным і рэспубліканскім друку. Самыя адметныя з іх і склалі першы зборнік поэта пад характэрнай назвай «Кліч»: гэта голас жыцця з усімі яго складанасцямі, роднай зямлі з яе хараством і болем, вечнага Неба з ягонай спагадай і любоўю да чалавека. Ці разважае аўтар над неўміручымі духоўнымі каштоўнасцямі, ці спаведна выказваецца пра глыбока асабістае, ці адгукаецца на вострыя праблемы сучаснасці — ён заўсёды імкнецца да вобразнай важкасці слова і дасканаласці паэтычнай формы.




---

**Неполное собрание признаний: новая книга о любви, надежде, вере / Владимир Яскович. — Брест: ОАО «Брестская типография», 2015. — 124 л.**

В новой книге поэта, живущего в Бресте и пишущего на двух языках — белорусском и русском, собраны стихи разных лет, посвященные главным темам, которые всегда волновали и никогда не перестанут звучать главной нотой в сердцах людей. Это — любовь, надежда, вера.



# Царква вёскі Чэрні

**на гістарычных здымках і па ўспамінах вернікаў**

У мінулым, так было з пакон вякоў, царква з'яўлялася адзіным асяродкам культуры і асветы для прыхаджан. Гэта было адзінае месца, куды сцякаўся народ з усяе акругі, дзе перад усімі былі адчынены дзверы. Туды мелі права на ўваход багатыя і бедныя, паны і батракі.

Царква з пакон вякоў была цэнтрам культуры народа.

Нарадзіўся чалавек і яго неслі хрысціць ў царкву, дзе яму давалася імя. Вырас. Прыйшла пара вяселля. І маладыя вянчаліся ў царкве, атрымліваючы божае благаславенне на далейшае жыццё. Памёр, аджыўшы свой век, і яго зноў «вялі» у царкву, дзе адпявалі і благаслаўлялі на «той свет». І жалобна гучаў царкоўны звон да тае пары, пакуль не апускалі нябожчыка ў магілу.

«Без бога — ні да парога...» — такая прымаўка жыла на вуснах нашых людзей, і ў ёй быў закладзены вялікі сэнс чалавечага жыцця.

У царкве знаходзіліся і зберагаліся ўсе ўлікава-актавыя кнігі людзей усяго прыходу. Далейшы іх шлях быў у архіў, дзе тыя кнігі зберагаюцца да нашай пары. Іменна па іх складваюцца і вывучаюцца гісторыі мінулых часоў.

Калісьці мне прыйшлося сутыкнуцца з паважаным жыхаром нашага сяла. У той момант я ішла ў нашу бібліятэку, каб здаць прачытаную кнігу «Касцюшко», якую напісаў Л.М. Несцярчук.

— Мікалай Мікалаевіч! Як па-вашаму, колькі гадоў Чэрням? — запытала я пачэснага чалавека.

— Ну, гадоў 150!



— Малавата! — сказала я і адкрыла старонку ў кнізе, на якой была карта з польскага музея пра паход Суворава ад Кобрына на «Брэсць».

То быў час падаўлення паўстання Касцюшко. На карце стаяла дата 17–19.09.1794 года і выразна значыўся гандлёвы шлях ад нашага «Брэсця» праз Жабінку на Кобрын. Але самае галоўнае тое, што на тым гандлёвым шляху сталі Чэрні. Акрамя таго, на карце былі знаёмыя назвы нашых сёлаў: Забалацце, Каменіца-Журавецкая, Ямна і іншыя.

— Так што нашыя Чэрні існуюць з далёкай старажытнасці... І дасць Бог, што гэта будзе не апошняя звестка, — сказала я тады Мікалаю Мікалаевічу.

Прайшло некалькі гадоў, і я атрымала ад чэрнінца, Івана Ігнатавіча Антанюка (12.03.2016 г.), пражываючага ў Мінску, апошнюю даведку пра Чэрні і пра царкву сяла. Ён прыслаў ксеракопію з кнігі «Святар», якую напісаў і выдаў у 2015 годзе ў выдавецтве «Беларусь» навуковец Дзяніс Лісейчыкаў.

З прысланага матэрыяла можна зрабіць выснову, што калі наша мясцовасць адносілася да Вялікага княства Літоўскага, то ў той час у Чэрнях дзейнічала ўніяцкая царква, а самі Чэрні бяруць свой выток з далёкага старавечча.

Уніяцтва — гэта была адзіная разумная палітыка тагачаснай дзяржавы. Вялікі князь Вітаўт змагаўся з супроцьстаяннем католікаў і праваслаўных, таму і была прынята Унія (Саюз) абедзвух вераў, якая і нарадзіла ўніяцкую царкву.

Дзяніс Лісейчыкаў даследаваў архіўныя дадзеныя з 1596 па 1839 гг. Яго цікавіла прасапаграфія ўніяцкага святарства. Навуковец працаваў у архівах Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі і Беларусі.

На аснове гэтай навуковай працы можна смела сцвярджаць, што **Чэрні ўспамінаюцца ў ёй з ліпеня 1667 года.**

Іменна гэтая дата стала днём прызначэння святара Смаленскага Тэадора ў царкву вёскі Чэрні Брэсцкага павета.

У 1704 годзе быў на яго месца высвячаны Смаленскі Рыгор.

Усяго ў спісе сем прозвішчаў святароў, якія служылі ў царкве нашых Чэрняў.

У Берасці ў 60–80 гады ва ўніяцкай царкве пасля яе закрыцця доўгі час дзейнічаў кінатэатр «Змена».

Праваслаўе ж прыйшло да нас пасля захопу зямель Вялікага княства Літоўскага Расійскай імперыяй.

Для будынка царквы заўжды выбіралася самае прыгожае, светлае месца, дзе-небудзь на пагорку. Гэта каб яна далёка была бачна і каб далёка быў чутны зык яе звона.

Чэрнінская царква пераходзіла з рук у рукі і некалькі разоў гарэла. Адноўленая пасля вялікага апошняга пажару сяла, яна стаяла на высокім месцы ў вянку магутных ліпаў і каштанаў. З трох бакоў яна была акружана агароджай са Штэравай цэглы. Чацвёрты, задні бок агароджы, сяляне выклалі з вялікіх камянёў.

На царкоўным двары, у куце, пад ліпамі былі пахаваны святары і іх сем'і.

Вялікі будынак святы за гэту звесткі, што «пані-кадзіла» было падаравана царкве Печко Тамашом з Клімавіч, які ездзіў на заробкі ў Амерыку. У падзяку святарамі ў царкве была запісана завядзёнка, па якой пры вянчанні маладых з роду Печак падсвечнік запальваўся бясплатна.

Чэрнінская царква перастала дзейнічаць пры савецкай уладзе ў 1963 годзе, і нейкі час стаяла зачыненай.

Апошнім яе святаром быў Грудавік. Пад ціскам улады ён даў згоду на закрыццё святыні. На апошнім набажэнстве святар звярнуўся з просьбай да прыхаджан:

— Бярыце абразы, харугві і зберажыце ўсё да лепшых часоў. Бог дасць, і надыйдзе святы момант, калі царква будзе адноўлена.

І вернікі пабралі царкоўную маёмасць на зберажэнне.

О.Д. Антанюк заставіла імі цэлы куток у сваёй хаце. Доўга зберагала абразы, а потым ахвяравала іх у царкву вёскі Збірагі.

У 1964 годзе будынак царквы быў зруйнаваны. Старшынстваваў тады ў сельсавеце Пугач. Актывістам быў В.М. Нежычкін.

Шабасам розных пачвараў можна назваць той час, калі камсамольцы, на чале з камуністамі, глуміліся над духоўнай крыніцай народа. У адну ноч імі былі зрэзаны і спалены ўсе крыжыахоўнікі, якія стаялі ўздоўж дарог перад сёламі. Па чарзе сціраліся з зямлі і царкоўныя будынкі.

Разам з гэтым знішчалася высокая маральнасць народа і яго старавечная культура.

А замест іх прыйшло да людзей безвер'е і бессаромная разбэшчанасць.

Калі руйнавалі ў Чэрнях царкву, то на абарону яе выйшлі адны жанчыны. З каламі і віламі верніцы пасталі перад будынкам і ў адзін голас заявілі:

— Не дадзім царкву разбураць!

Але хто там іх слухаў?!

Развальвалі яе па-дзікунскі... На званіцу пятлёй быў накінуты адзін канец доўгага троса, другі быў зачэплены за трактар. Па камандзе трактар зароў і пацягнуў на сябе трос. Той разарваўся. Зачапілі другі. І ён не вытрываў напругі. Толькі за трэцім разам затрашчалі дошкі, і паступова званіца стала хіліцца, а затым і абрушылася.

Тым трактарыстам быў правінаваціўшыся камсамолец.

Разбураную царкву разабралі на дровы і звезлі на саўгасны двор. Доўгі час яе паленнямі тапілі лазню і другія гаспадарчыя катлы.

Частку дошак узяла сабе школа. На ўроках працы школьнікі пілавалі і габлявалі іх, рабілі выдатныя сталярныя вырабы.

Усе чыгунныя надмагільныя помнікі чэрнінскіх святароў былі зрэзаны. Жалезныя агароджы і крыжы былі здадзены на металалом. Сярод бэзу застаўся стаяць толькі бетанаваны помнік Штэру.

— Чаму? Мо, проста яго не прыкмеціл ў час руйнавання астатніх?

Потым на голым месцы царкоўнага двара была арганізавана школьная спартыўная пляцоўка з усімі спартыўнымі прыладамі і прыстасаваннямі.

Такім чынам, ад гісторыі і духоўнага вытоку чэрнінцаў засталіся толькі цагляная агароджа і ў ёй векавыя ліпы ды каштаны... І яшчэ: ля царкоўнай брамы, злева, паміж бэзу — помнік Аляксею Пятровічу Штэру.

Яўген Куркевіч — нашчадак былога праваслаўнага святара Турэвіча, пахаванага пад ліпамі ў царкоўным двары, вырашыў выкапаць труны з целамі дзеда і яго блізкіх, каб перапахаваць на Чэрнінскіх могілках.

— Не хачу і не магу змірыцца з тым, што будуць таптацца па магілах маіх дзядоў, — казаў унук Турэвіча на цырымоніі перапахавання.

Зараз на вясковых могілках стаіць маленькі, самаробны помнік сям'і Турэвічаў. Сам Яўген Куркевіч быў пазашлюбным сынам дачкі святара — Надзеі. У той час гэта была вялікая ганьба для Турэвіча. Надзя памерла вельмі рана, аставіўшы маленькага Жэньку. З роспачы дзедам хлопчыку было дадзена сваё, але перайначанае прозвішча. Унук Турэвіча, Яўген Куркевіч, хоць і рос сіратою, але ў дарослым жыцці стаў шафёрам і ўсё сваё жыццё прапрацаваў «дальнабойшчыкам».

Прайшлі гады. У Чэрнях дзяржава пабудавала новую школу — дзесяцігодку. Старая ж была закрыта і доўгі час стаяла безгаспадарчай. Па ночах «смелыя» пачалі расцягваць яе на свае патрэбы. У той жа час непрыкметна ля спартыўнай пляцоўкі не стала былой царкоўнай, цаглянай агароджы. Не баючыся вялікага граху, яе расцягнулі па начах наехаўшыя ў Чэрні «рукастыя» забудоўшчыкі, бо ў свайго народа не падымалася рука на такое кашчунства.

Надыйшла сярэдзіна 80-х гадоў. У савецкай дзяржаве пачалася «перабудова». Беларусь упершыню абʼявіла сябе самастойнай рэспублікай. Да ўлады прыйшлі дэмакраты. Падуў свежы вецер свабоды. Чырвоны камуністычны сцяг змяніўся на бела-чырвоны, часоў Вялікага княства Літоўскага. Гербам маладой рэспублікі стала «Пагоня».

Пачалося ўсё новае... Вельмі ўражвала непрывычная свабода слова... Людзі свабодна маглі выказваць свае думкі, нават з высокіх трыбун. У газетах пісалася ўсё, што трымалася дагэтуль за сямю пячаткамі... Народ упершыню адчуў сваю годнасць.



Іменна ў гэты час пачалі чэрнінцы хадайнічаць аб дазволе на будаўніцтва ў сяле царквы. Вядома, новая ўлада дала Дабро!

Цяпер зноў вялікім актывістам у справе будаўніцтва святога будынка стаў В.М. Нежычкін.

Будынак пачалі будаваць на старым месцы, сярод ліпаў і каштанаў. На заклад першага каменя прыязджаў сам Філарэт. З святою пропаведдзю звяртаўся тады да прыхаджан Благачынны Яўген Парфенюк.

На набажэнствах было многа людзей. Упершыню за доўгі час безвер'я людзі пачыналі хрысціцца. А ў многіх рука тады так і не паднялася, але адной сваёй прысутнасцю імі быў зроблены выбар і першы крок да Бога.

Першым святаром Чэрнінскай царквы быў прызначаны святар з Чарнаўчыцкага прыходу — Яўген. Пачатковыя набажэнствы ён праводзіў у правым крыле будынка былой Чэрнінскай васьмігадовай школы. Там калісьці былі школьныя майстэрні.

У гэты час была ўжо пабудавана шкоўная дзесяцігодка, таму ўлада ахвяравала старую школу для царквы.

Усім прыходам людзі разбіралі сцены яе будынка на цэглу, з якой і ўзводзілася цяперашняя прыгажуня-царква. А астатнія будаўнічыя матэрыялы былі прыдбаны на ахвяраванні арганізацый і людзей... Царкоўныя актывісты многа гадоў хадзілі з песнямі па сёлах і збіралі грошы ў людзей на новую святыню. Будавалася яна цэлых дзесяць гадоў...

«Бурыць — не будаваць!»



**Царкоўны хор чэрнінскай царквы даваеннага часу.**
**Першы рад (ляжаць):** Ботух Архіп Емяльянавіч, Вайцюк Еўдакія — «Камісарча», Ботух Іван Сцяпановіч.
**Другі рад:** Арсенюк Вольга Паўлаўна, Рабчук Мікалай Васільевіч, Нарушэвіч Ніна — рэгент хору, Такун Ганна Іванаўна, Акулаў (Вакула) — афіцэр царскай арміі (служыў у арміі Булак-Балаховіча).
**Трэці рад:** Калішук Алена Юхімаўна, Шабала Пятро, Сталярчук Вера Паўлаўна, Печко Піліп Навумавіч, Гаўрылюк Марыя Сцяпанаўна, Такун Аляксандр Іванавіч, Сталярчук Марыя Іванаўна, Журан Наталля, Германовіч Вольга Нікіфараўна.
***Пералік зроблены па фотаздымку 1928 года Марыяй Емельянаўнай Пячко***

І гэта так... Бо разбурылі ўсяго за адзін дзень, а каб пабудаваць новую, прыйшлося ўсяму народу праліць многа салёнага поту.

Але нягледзячы на ўсе цяжкасці, што паўставалі на шляху, царква ўрэшце пабудавана!

Вольга Данілаўна Антанюк прывезла са Збірагоўскай царквы ўсе старыя чэрнінскія абразы, і цяпер яны займаюць годнае месца на сценах новай святыні, якая, бы птушка Фенікс, у які раз узрадзілася з небыцця і існуе, звініць сваімі званамі. Малінавая мелодыя іх падымае дух народа і ўмацоўвае веру яго ў светлае будучае.

У дамашнім бацькоўскім фотаальбоме ёсць фотаздымак (копія) царкоўнага хору Чэрнінскай царквы, які быў зроблены ў 1928 годзе. У хоры спявала ўся моладзь сяла.

***Наша царква — гэта сімвал неўміручасці Чэрняў і чэрнінцаў.***

Хто толькі не таптаў нашу зямлю!

А мы ўсё роўна жывём і будзем жыць!

Бо мы — беларусы!

Бо мы помнім сваіх дзядоў, іх звычаі, мову і культуру.

***Ціна ХУТАРАНКА***

# Таямніцы «Астрамечаўскага рукапісу»

Не так даўно мне пашчасціла пазнаёміцца з доктарам філалагічных навук, прафесарам, ганаровым старшынёй Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адамам Восіпавічам Мальдзісам. Вядомы навуковец прыняў удзел ва ўрачыстасцях, прысвечаных 500-годдзю Астрамечава. І хоць у гэтыя мясціны ён завітаў упершыню, да іх ў Адама Восіпавіча асаблівае стаўленне. Каля паўстагоддзя таму ён знайшоў помнік музычнай культуры XVII ст., а пасля дапамог даказаць яго астрамечаўскае паходжанне. Гутарка ідзе пра «Астрамечаўскі рукапіс». Скарыстаўшыся выпадкам, не магла не даведацца з першых вуснаў пра падрабязнасці даследвання знакамітага рукапісу і тыя таямніцы, якія суправаджалі вяртанне яго на радзіму.

*— Адам Восіпавіч, як вядома, лісты з нотамі, якія сёння маюць назву «Астрамечаўскі рукапіс», былі выяўлены вамі пад вокладкай уніяцкага трэбніка. Раскажыце, калі ласка, пры якіх абставінах гэтае адкрыццё адбылося.*

— Гэта была мая першая навуковая камандзіроўка ў Польшчу. У Кракаве, ва ўніверсітэце Ягелонскім, мне паказалі адну рэлігійную кніжку, на вокладцы якой было памечана, што яна з Астрамечаўскай царквы. Бібліятэкар папрасіла мяне ўдакладніць, ці ёсць такое месца на тэрыторыі Беларусі. Я адказаў, што павінен паглядзець гэта ў даведніках, але хутчэй усяго яно знаходзіцца на Брэстчыне, дзе з'явілася ўнія. Аддаючы бібліятэкару трэбнік, я заўважыў, што ўнутры вокладкі ёсць нейкія рукапісныя паперкі. Напэўна, іх з-за непатрэбнасці выкарысталі як напаўняльнікі. Тады ж рабілі вокладкі як мага таўсцей. Я папрасіў у бібліятэкара дазволу дастаць лісты і пабачыць, што там. Але яна адказала, што гэта справа спецыяліста.

Потым я забыў пра той выпадак, бо працаваў тады над XIX стагоддзем, ды і эпізодаў такіх многа сустракаецца ў час архіўных, бібліятэчных і музейных пошукаў. А тут раптам даведаўся: польскі музыказнаўца Ежы Голас расшыфраваў нотныя запісы з вынятага з вокладкі трэбніка рукапісу. Дарэчы, яго па месцу знаходжання назвалі Ягелонскім. На аснове некаторых твораў (а гэта была барочная музыка) ім была створана грампласцінка. Па маёй просьбе кракаўскія сябры даслалі яе мне.

*— Як творы з рукапісу зноў загучалі ў Беларусі?*

— У зале Саюза пісьменнікаў быў канцэрт барочнай музыкі ансамбля




Прафесар Адам Мальдзіс на канфярэнцыі, прысвечанай 500-годдзю Астрамечава

«Кантабіле», на якім я быў разам з Уладзімірам Караткевічам. Мы тады сябравалі з ім і жылі побач на вуліцы Веры Харужай (у Мінску — ***заўв. рэд***.), хадзілі разам на розныя мерапрыемствы, дык пайшлі і на гэты канцэрт. Гучала італьянскае барока, французскае, рускае...

— А што беларускага барока не было? — пытае мяне Караткевіч.

— Чаму? Было. Я бачыў у Кракаве «Астрамечаўскі рукапіс» з нотамі, і нават заказаў грамплацінку.

— Дык ідзі на сцэну і скажы аб гэтым «Кантабіле».

На перапынку я падыйшоў да артыстаў з прапановай. Кіраўнік ансамблю пытаецца ў мяне:

— Няўжо ў Беларусі было сваё барока?

— А як жа яно прыйшло да Расіі? Пераскочыла? — адказваю я. — Калі ёсць ў Расіі, павінна быць і ў нас.

Я распавёў аб рукапісу з Астрамечава, які давялося мне ўбачыць у Кракаве.

Адчуўшы гэтую гісторыю, адзін з музыкантаў сказаў:

— Хто ведае тое Астрамечава? Давайце будзем лічыць гэты сшытак полацкім, Полацк усе ведаюць.

— Дык гэта ж будзе фальсіфікацыя, — запярэчыў я.

— Ну тады мы не будзем выконваць, — паставілі ультыматум артысты.

Згадзіцца з імі падштурхнуў мяне Караткевіч. «Ці важна, як будзе называцца, абы выконвалі музыку», — пераканаў мяне пісьменнік.

Неўзабаве «Полацкі сшытак» стаў на слыху. Пасля таго, як у аддзел рукапісаў нашай акадэмічнай бібліятэкі прыйшоў мікрафільм з музычнымі творамі, песні з рукапісу загучалі ў выкананні «Кантабіле» і іншых калектываў і артыстаў. Выкарыстоўвалі «сшытак» і танцавальныя ансамблі. Што вы думаеце, у XVII стагоддзе людзі не кахалі адзін аднога, не танцавалі і не спявалі?

*— Як атрымалася даказаць усім, што «Полацкі сшытак» зусім не полацкі, а астрамечаўскі?*

— На вокладцы ўніяцкага трэбніка выразна было напісана — Астрамечава. Не знайшоўшы ніякіх звестак аб Астрамечава на Полачынне, Ежы Голас прыйшоў да высновы, што гэты рукапіс мог з'явіцца на беларуска-польскім памежжы. Прааналізаваўшы вадзяныя знакі на паперы рукапісу, ён заключыў, што трэбнік убачыў свет у перыяд паміж 1633 і 1650 гадамі, а сам рукапіс быў пераплецены не пазней 1680 года. Потым я знайшоў звесткі, што ў Астрамечава ў XVII стагоддзі была свая царква. А праз некаторы час да мяне звярнуўся Аляксей Сцяпанавіч Скакун, які і дапамог адваяваць гістарычную справядлівасць. Сёння я магу са стапрацэнтнай упэўненасцю сказаць, што знойдзены ў Кракаве рукапіс мае астрамечаўскае паходжанне. Гэта таксама падцверджана Акадэміяй навук Беларусі.

*— Ці ёсць яшчэ ў «Астрамечаўскім рукапісе» таямніцы, якія чакаюць свайго раскрыцця?*

— Неабходна знайсці людзей, якія здалі ўніяцкі трэбнік у бібліятэку Ягелонскага ўніверсітэта, а паступіў ён пасля вайны. Значыць, прывёз яго нехта з тых, хто перасяляўся з Брэстчыны ў Польшчу насуперак закону. Хутчэй за ўсё, трэбнік яны прадалі за грошы, а так як гэта фінансавы дакумент, спісы з іх прозвішчамі павінны быць дзесьці ў бібліятэцы. Таксама трэба выдаць арыгінал рукапісу з нотамі. Але сярэдневяковыя чарніла часам пераходзяць з аднаго боку на другі бок, і некаторыя ноты цяжка прачытваюцца. Значыць, трэба рабіць дадатковую ксеракопію ці прыцягнуць нейкую іншую тэхніку. Я лічу, што для гонару Астрамечава і ўсёй Брэстчыны гэта неабходна зрабіць.

*Пыталася* ***Алеся ПАШКЕВІЧ***

# Фестиваль православных духовных песнопений «Пойте Богу нашему, пойте»

**15-й год подряд полесский городок Дрогичин становится центром духовных хоровых песнопений. Проведение действа всегда приурочено к пасхальному периоду, а в этом году удалось совместить его с Днем памяти Преподобной Евфросиньи Полоцкой.**

Знаменательная дата сформировала и облик призов, которые были вручены каждому выступившему коллективу. Обычно оргкомитет фестиваля заказывает изготовление призов на стеклозаводе «Неман». На сей раз статуэтки нашей святой соотечественницы были с высоким мастерством выполнены из матового стекла.

В XV фестивале православных духовных песнопений участвовали 640 человек. Выделился сводный детский хор Воскресенского собора г. Бреста, в который влились голоса хора кадетов из средней школы № 35, а также ансамбль цимбалистов «Астрамечаўскія жаўрукі» и вокально-инструментальный ансамбль ДШИ агрогородка Остромечево.

Взрослых брестских песнопевцев представил хор Свято-Николаевского гарнизонного собора. Из Пружан участвовал хор молодежного братства Спасо-Преображенской церкви, из Иваново — народный академический хор Центра культуры, из Высокого — студия «Радость моя» при Свято-Крестовоздвижен-

Хор гарнизонного храма святителя Николая Чудотворца




Ансамбль цимбалистов «Астрамечаўскія жаўрукі»
и вокально-инструментальный ансамбль ДШИ агрогородка Остромечево

ской церкви, из Пинска — народный хор ветеранов городского Дома культуры и т. д. Разнообразия добавило участие молодежного камерного женского хора «Фреска» из Минского республиканского Дворца культуры профсоюзов.

Как видим, репертуару духовной направленности покорны самые разные творческие образования.

Инициатива прописки певческого съезда принадлежит работникам Дрогичинского райисполкома. Епископ Брестский и Кобринский Иоанн поддержал начинание, вошел в оргкомитет фестиваля и окормляет его личным пастырским присутствием.

А фестивальный город Дрогичин приветствует свое детище массовым спросом. Голосистых участников программы кормят, водят по музеям и награждают дипломами и призами. Духовные импульсы омывают певческий центр и разливаются по всем окрестностям.

*Тамара ГЛУЩЕНКО*

Выступает хор Сретенского храма г. Дрогичина под руководством матушки Ольги Кучмы



